Бог, Беларусь, Воля!

# Голас Краю

№3(14), 2001 год | Газэта беларускіх нацыяналістаў | www.spa-kraj.org

Слова кіраўніка

# ЧАС ВЫБІРАЦЬ СВАЮ БУДУЧЫНЮ

Беларускі Народ адзначыў сумную дату пачатку вайны паміж нямецкім фашызмам і бальшавізмам. Можна па-рознаму ставіцца да тых жорсткіх падзеяў, пачаткам якіх стаў 1941 год. Мільёны ахвяраў. Беларуская Нацыя - на мяжы выжываньня. Беларусы воляю лёсу апынуліся паміж молатам і кавадлам. Абодва варагуючыя бакі былі акупантамі ў дачыненьні да Беларусі. Таму прыкра, што мы не змаглі выступіць на сваіх родных землях як самастойная палітычная й вайсковая сіла. Трагедыя нашага народу ў тым, што, беларусы пры пачатку вайны аказаліся расколатыя паміж двума варожымі лагерамі - адна частка ідзе ў партызаны, а другая - у нямецкія фармаваньні.



Мне падаецца, што змагаючыся па розныя бакі барыкадаў, дэсантуючыся ў шэрагах Першага штурмавога зьвязу, ці зьнішчаючы нямецкія гарнізоны ў партызанскіх атрадах, нашыя землякі біліся за СВАБОДУ, толькі кожны разумеў яе па-свойму, ў кожнага была свая "праўда".

Нашая Бацькаўшчына сёньня зноў знаходзіцца перад выбарам: застацца калёніяй ці здабыць незалежнасьць, працаваць на чужога пана (не важна адкуль ён прыйшоў: з усходу ці з захаду) ці здабываць долю Беларускаму Народу, выконваць чужыя загады ці сваім розумам спасьцігаць сьвет ды жыцьцё. Сёлета нам даецца шанец скінуць ярмо няволі ды здабыць Беларускую Незалежную Нацыянальную Дзяржаву.

Людзі, якія заплямілі сябе ў палітычных гульнях ды "кампрамісах" з рэжымам, зноўку абяцаюць нам перамены ды райскае жыцьцё, але ці здольныя яны да гэтага? Дзесяць апошніх гадоў іх барацьбы за ўладу не прынесьлі нічога добрага Беларускаму Народу. Што мы маем сёньня? Лукашэнкаўскі рэжым прывёў краіну да эканамічных ды палітычных катаклізмаў, спарадзіў безнадзейнасьць, роспач ды апатыю ў народзе. Людзі страцілі надзею на зьмены да лепшага, згубілі веру ў свае сілы...

Моладзь пазбаўленая пэрспэктывы, магчымасьці атрымоўваць за сваю працу адпаведны заробак і стаць эканамічна незалежнай. Стыпендыі ў 15-20 даляраў не хапае студэнтам нават на нармальнае харчаваньне. Студэнцкую моладзь улады гвалтоўна "разьмяркоўваюць" экалягічна небясьпечныя тэрыторыі. Якое здароўе будзе ў нашай нацыі, якую будучыню яны змогуць пабудаваць? Многія маладыя людзі ня могуць уладкавацца на працу па сваёй сьпецыяльнасьці, каля 65 % беспрацоўных — моладзь. Па меркаваньні ўладаў, мецьжытло для маладых сем'яў — недазволеная раскоша. Маладыя сем'і баяцца нараджаць дзяцей, бо няздольныя матар'яльна забясьпечыць нават самых сябе.

Сялян і рабочых улады прымушаюць працаваць за мізэрны заробак, выплата якога ўвесь час затрымліваецца. Людзі ня могуць пракарміць сваю сям'ю, бацькам сорамна глядзець у вочы сваім дзецям. У калгасах і на прадпрыемствах да простых працаўнікоў начальства адносіцца, як да бясправных і маўклівых парабкаў. Рэсурсы прадпрыемстваў на сёньняшні дзень выпрацаваны на 70-80% працэнтаў, абсталяваньне на многіх з іх знаходзіцца ў аварыйным стане, а гэта значыць, што працоўныя зьяўляюцца патэнцыйнымі інвалідамі, без сацыяльных гарантый.

Улады ператварылі інтэлігенцыю ў маўклівых назіральнікаў заняпаду краіны, у паслухмяную, бязвольную масу. Частка інтэлігенцыя паверыла ў добрыя намеры рэжыму ды пайшла яму на службу. У выніку, яна згубіла аўтарытэт у грамадзтве, перастала быць накіроўваючай сілай для народа. Прыстасоўваючыся да палітычнай сытуацыі, саветызаваная інтэлігенцыя страціла нацыянальнае аблічча й права называцца нацыянальнай элітай. Лукашэнка шмат абяцаў падтрымліваць навуковую і творчую інтэлігенцыю, абяцае і будзе абяцаць. А ў гэты час фінансаваньне гэтай сферы ажыцьцяўляецца па "астаткавым прынцыпе". Напрыклад, на дзейнасьць Акадэміі Навук Беларусі выдаткоўваецца з бюджэту грошай меней, чым на ўтрыманьне асабістай аховы Лукашэнкі.

Беларускае войска, прызначанае для абароны краіны ад ворагаў, разбураецца рэжымам. На яго ўтрыманьне выдзяляцца ўсё менш і менш сродкаў. Афіцэры беларускага войска атрымоўваюць заробкі значна меншыя, чым у іншых сілавых структурах, востра стаіць праблема з жыльлём для іх сем'яў. Баяздольнасьць беларускага войска зьніжаецца, падае маральны дух вайскоўцаў. Гэтым рэжым падкрэсьлівае сваё стаўленьне да абароны Краю.

Дзе ж выйсьце? Яно ёсьць! Трэба ўсьвядоміць сваю адказнасьць за лёс Беларускага Народа, за нашую будучыню. Мы самі павінны стварыць яе сёньня. Толькі ў пасьлядоўнай і бескампраміснай барацьбе за свае правы, за сацыяльную, палітычную ды нацыянальную справядлівасьць мы здабудзем перамогу.

Каб пабудаваць магутную незалежную дзяржаву, уся Беларусь павінна згуртавацца вакол Нацыянальнай Ідэі, а кожны беларус павінен стаць на варту правоў і свабод Беларускага Народу, усьвядоміць сябе нацыяналістам. Сёньня арганізацыя "КРАЙ" паўстала, каб паклікаць найлепшых беларусаў на службу Беларускай Нацыі. Быць Краёўцам – значыць быць для ўсіх узорам. Ужо сёньня ўся Беларусь глядзіць на нас. Заклікаем да нацыянальна-валявога дзеяньня. Здабудзьма Беларускую Дзяржаву або загіньма ў барацьбе за яе!

Жыве Беларусь!

Жыве вечна!

**Падпаручнік КОНРАД**

З гісторыі вызвольных змаганьняў

# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ШТУРМОВЫ ЗЬВЯЗ

**60 гадоў таму вайсковы аддзел беларускіх нацыяналістаў дэсантаваўся на акупаванай бальшавікамі Беларусі.**

Другая сусьветная вайна ператварыла Беларусь у арэну змаганьня дзьвюх імпэрый — фашыстоўскай Нямеччыны й бальшавіцкага Савецкага Саюзу. Абодва акупанты разглядалі нашую краіну, як сваю калёнію, таму імкнуліся зьнішчыць любыя праявы супраціву ў народзе. Але ні рэпрэсіі, ні ілжывая прапаганда не змаглі спыніць імкненьня Беларускага Народу аднавіць сваю незалежнасьць. У авангардзе Беларускага вызвольнага руху ішлі беларускія нацыяналісты, якія змагаліся за волю Бацькаўшчыны са зброяй у руках.

18 чэрвеня 1941 года збройны аддзел беларускіх нацыяналістаў дэсантаваўся ў Заходняй Беларусі й заатакаваў чырвоных вайсковыя фармаваньні. Маладыя беларускія жаўнеры помсьцілі акупантам за расстрэлы й дэпартацыі, за арышты й калгасы, за сваю паняволеную Бацькаўшчыну. Дэсантнікі нішчылі энкавэдзістаў і камуністаў, рабілі дывэрсіі на бальшавіцкіх вайсковых аб'ектах, арганізоўвалі з мясцовага насельніцтва паўстанцкія групы. Так дзеяў легендарны Першы Штурмовы Зьвяз...

Ён быў утвораны на пачатку 1941 году на тэрыторыі акупаванай немцамі Польшчы. Беларускія нацыяналісты, падобна да іншых нацыянальных вызвольных рухаў (украінскага, эстонскага, летувіскага ды інш.), з тактычных меркаваньняў пайшлі на супрацоўніцтва з нямецкай вайсковай выведкай і контрвыведкай (абвэр) ды накіравалі некалькі сотень маладых хлопцаў на нямецкія вышкальныя базы. Там беларусы рыхтаваліся да змаганьня не за "новую Эўропу" і "новы парадак", а за незалежную Беларусь. Многія зь іх былі сябрамі беларускіх падпольных арганізацый.

Ініцыятарам і натхняльнікам стварэньня Першага Штурмовага Зьвязу быў сьвятар, ідэёлаг беларускага нацыяналізму а. Вінцэнт Гадлеўскі. Ён бачыў у ім пачатак беларускага войска, якое мусіла ўтварыцца на ягонай аснове ды змагацца за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. У 1940-41 гадах В. Гадлеўскі стаўся лідэрам беларускага нацыянальнага падпольля, створанай на тэрыторыі Польшчы, Нямеччыны, Чэхіі.

**«Кожны твой крок і кожны твой чын павінен прыносіць гонар твайму народу»**

# ПЕРШЫ ШТУРМОВЫ ЗЬВЯЗ

Таемна ад немцаў беларусы зьбіралі сілы, каб у вырашальны момант выступіць супраць усіх акупантаў з мэтай абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

Першы Штурмовы Зьвяз стаўся авангардам Беларускай Збройнай Сілы. Ён фармаваўся ў асноўным з беларусаў-афіцэраў і падафіцэраў польскага войска, якіх немцы вызвалілі зь лягераў ваеннапалонных. Складаўся Зьвяз з 50 чалавек, якія праходзілі падрыхтоўку ў Лямсдорфе пад Аполем (Падляшша). Камандзірам беларускіх дэсантнікаў быў харунжы Уладзімер Качан.



Першы Штурмовы Зьвяз быў перакінуты праз мяжу 18 чэрвеня 1941 г. у раёне Сувалак. Па некаторых зьвестках, усяго дэсантаваўся 41 чалавек. Праўдападобна, дэсантнікі былі разьбіты на групы па 5-11 чалавек. У мэтах канспірацыі, усе былі апранутыя ў форму чырвонаармейцаў. Частка ўдзельнікаў Першага Штурмовага Зьвязу павінна была выйсьці для правядзеньня дывэрсійных акцый на чыгуначную лінію Стоўбцы — Баранавічы. Некаторыя дэсантнікі загінулі ў баях або трапілі ў палон да бальшавікоў, аднак іншыя выканалі пастаўленыя задачы.

Акрамя Першага Штурмовага Зьвязу на Беларусь былі закінуты яшчэ некалькі невялікіх беларускіх дэсантных групаў. Адна зь іх, у складзе 10 чалавек, у ноч з 21 на 22 чэрвеня 1941 г. была высаджана каля Менска й таксама выканала пастаўленую задачу.

Першы Штурмовы Зьвяз паклаў пачатак новаму этапу збройнай барацьбы Беларускага Народу за сваё нацыянальнае вызваленьне. Ён быў першым. Ужо пасьля былі створаны такія вайсковыя фармаваньні, як Беларуская Самаабарона, Беларуская Самаахова, Беларуская Краёвая Абарона, Беларускае Краёвае Войска, спецыяльны дэсантны батальён "Дальвіц" ды іншыя. Яны працягвалі змаганьне супраць усіх акупантаў нашай зямлі, якую распачалі іх папярэднікі — адважныя змагары з Першага Штурмовага Зьвязу.

Згадваючы іх сёньня, у 60-ыя ўгодкі легендарнага дэсанту, мы падкрэсьліваем пераемнасьць пакаленьняў беларускага нацыяналістычнага руху. Беларускія нацыяналісты працягваюць барацьбу за Беларускую Незалежную Нацыянальную Дзяржаву. І ў гэтай барацьбе мы пераможам!

**Пятро Казак**

# Дэсантнік пахаваны пад Івацэвічамі

Пакуль нам невядомыя імёны ўсіх вайскоўцаў Першага Штурмовага Зьвязу. Назавем тыя прозьвішчы, якія нам удалося ўстанавіць (сярод іх ёсьць беларусы-дэсантнікі і з іншых груп): Яраслаў Станкевіч, Сядынскі, Акінчык, Тачаноўскі, Галчынскі, Уладзімер Качан, Сьцяпан Гугель, Уладзімер Сянько, Юрка Вежан, Контаўт, Альбэрт Асоўскі, Рыгор Зыбайла...



Рыгор Зыбайла нарадзіўся 15 верасьня 1913 году на Івацэвіччыне. Паводле адукацыі ён быў лясным інжынерам. У верасьні 1939 г. Зыбайла ўдзельнічаў у нямецка-польскай вайне, трапіў у нямецкі палон. Пасьля вызваленьня ён увайшоў у Першы штурмовы зьвяз, які быў скінуты на Беларусь перад нападам Нямеччыны на СССР.



**«Зыбайла Рыгор Барысавіч нарадзіўся 15. 09.1913 г. памёр 15. XI. 1987 г. Дарагому бацьку і дзядулю»**

Рыгор Зыбайла ўвосень 1941-га быў прызначаны старшынём Слонімскага акруговага камітэту Беларускай Народнай Самапомачы (БНС). Адначасова ён увайшоў у падпольную антыфашыстоўскую й антыкамуністычную Беларускую Незалежніцкую Партыю (БНП), быў сябрам Цэнтральнага Камітэту партыі. Неадназова Зыбайла бараніў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі мірнае насельніцтва, за што й быў высланы немцамі на пасаду кіраўніка раёну ў Дзярэчын.

Зь лета 1943-га Зыбайла выконваў абавязкі намесьніка старшыні БНС Юрыя Сабалеўскага ў Менску. У сакавіку 1944 году ён ізноў апрануў вайсковы мундзір, стаўшы начальнікам Беларускай Краёвай Абароны ў Глыбоцкай акрузе, меў рангу лейтэнанта. Актыўна ствараў беларускія вайсковыя аддзелы.

Летам 1944-га Рыгор Зыбайла, разам з іншымі беларускімі вайскоўцамі, адыйшоў на Захад. Там ён быў надлейтэнантам у беларускай дывізіі Зіглінга. Разам з батальёнам гэтай дывізіі напрыканцы 1944 г. перайшоў на бок французскіх партызанаў. Пасьля беларускія жаўнеры апынуліся ў амэрыканскім лягеры для ваеннапалонных. Зыбайла й іншыя пайшлі дабраахвотнікамі ў польскую армію генэрала Андэрса.

Доўгі час панавала думка, што Зыбайла быў расстраляны польскай контрвыведкай у Марсэлі. Аднак гэта аказалася няпраўдай. Зыбайла нейкім чынам у пасьляваенны час трапіў у рукі чэкістаў. Па адной вэрсіі, быў выкрадзены чэкістамі й прывезены у СССР. Па іншай, сам прабіраўся на Бацькаўшчыну праз Чэхаславаччыну, каб змагацца з акупантамі. На допыце ў МГБ ён сказаў: "Я сваёй Беларусі ніколі не здраджваў!". Зыбайлу засудзілі на доўгія гады канцлягераў.

Па вяртаньні на Бацькаўшчыну, Зыбайла жыў у вёсцы Яглевічы, ажаніўся, выгадаваў сына. Ён падтрымліваў кантакты зь некаторымі сваімі баявымі сябрамі. Памёр беларускі патрыёт 15 лістапада 1987 г. і пахаваны ў вёсцы Яглевічы недалёка ад Івацэвіч.

## ПЕСЬНЯ ПЕРШАГА БЕЛАРУСКАГА ШТУРМОВАГА ЗЬВЯЗУ

Беларускія дэсантнікі, рыхтуючыся да будучых баёў, склалі сваю песьню. Аўтар (або аўтары) яе невядомыя. Пазьней музыку да яе напісаў вядомы беларускі кампазітар Мікола Куліковіч-Шчаглоў. Цяпер існуюць некалькі варыянтаў песьні. Мы ж друкуем першапачатковы, які 4 лістапада 1943 году надрукавала менская газэта "Голас вёскі". Менавіта гэтую песьню сьпявалі беларускія "камандас", рыхтуючыся да баёў з бальшавіцкімі акупантамі.

Чутны гоман, там войска сьпявае,
Па садах вадгалоскі чуваць, —
Крывічанскі жаўнер прыбывае,
Каб сабе тут начлегам стаяць.
Гэта йдзе першы зьвяз наш штурмовы,
Беларусь — Родны Край бараніць,
Хоча скінуць чужыя аковы,
У вольным краю каб вольнымі быць.
Людзі краскамі іх абкідаюць,
А дзяўчаты цалункі ім шлюць,
Яны з радасьцяй гэта прыймаюць, —
Так прыгожа праз сёлы ідуць.
Па гасподах гаворкі, цалункі,
Прысяганьні... у вачох поўна сьлёз, —
Вось якія нам будуць жаданьні,
Што гатуе нам будучы лёс?
Крывічанскае войска сьпявае,
У крывавы рыхтуецца бой,
А дзяўчына ў жаўнера пытае:
Чаму брась ён ня хоча з сабой?




Газэта «Голас Краю» заснавана спартова-патрыятычнай арганізацыяй«КРАЙ». Год заснаваньня1999. Рэдактар Яўген Садоўскі

Рэдакцыя не заўсёды падзяляе меркаваньні аўтараў. Перадрук матэрыялаў толькі з дазволу рэдакцыі газэты



Адрас для ліставаньня:
220037, г. Менск, а/с 49
(8-017) 249-00-00, аб. 7315
e-mail: spa_kraj@hotmail.com
www.spa-kraj.org